# Голас Радзімы

№ 23 (2061)
9 чэрвеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Прэзідэнт ЗША Рональд РЭЙГАН і Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч ГАРБАЧОЎ на маскоўскай сустрэчы.



Р. М. ГАРБАЧОВА, Р. РЭЙГАН, М. С. ГАРБАЧОЎ, Н. РЭЙГАН на цырымоніі сустрэчы ў Крамлі.

**У гэтыя пяць дзён — з 29 мая па 2 чэрвеня — людзі ўсёй Зямлі, дзе б яны ні жылі,—на гаманлівым еўрапейскім кантыненце, у далёкай ураўнаважанай і спакойнай Аўстраліі, у раздзіраемай канфліктамі Лацінскай Амерыцы, — у гэтыя дні ўсе лавілі кожную вестку з Масквы. Усе астатнія пункты планеты адышлі на другі план. Чацвёртая сустрэча лідэраў СССР і ЗША Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Р. Рэйгана прыцягвала ўвагу сусветнай грамадскасці перш за ўсё таму, што ад іх дыялогу, палітычнай разважлівасці і дзяржаўнай мудрасці залежыць лёс усіх краін і народаў. На маскоўскай сустрэчы ў вярхах абмяркоўваліся многія праблемы, але кожнага з нас, хто насяляе гэтую планету, найбольш цікавіла адна: ці будзе зроблен наступны крок да бяз'ядзернага і ненасільнага свету! Мяркуючы па матэрыялах сустрэчы ў вярхах, такі крок зроблены. Цяжка яны даюцца — гэтыя крокі да ўзаемнага давер'я, на аснове якога ўжо ратыфікаваны Дагавор паміж СССР і ЗША аб ліквідацыі іх ракет сярэдняй і меншай дальнасці і нават пры цяперашнім амерыканскім прэзідэнце могуць быць пераадолены ўсе перашкоды на шляху да дагавора аб пяцідзесяціпрацэнтным скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў. Маскоўская сустрэча пакінула нам надзею, што розум і добрая воля перамогуць.**

# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ М. С. ГАРБАЧОВА

1 чэрвеня Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў правёў прэс-канферэнцыю для савецкіх і замежных журналістаў, якія асвятлялі савецка-амерыканскую сустрэчу на вышэйшым узроўні ў Маскве.

## *Выступленне М. С. ГАРБАЧОВА*

Завяршылася чацвёртая за тры гады сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС і Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэта не проста арыфметыка. Па-мойму, гэта—канстатацыя вялікага сэнсу, вялікага палітычнага гучання.

За тры гады — чатыры сустрэчы. Гэта характарызуе інтэнсіўнасць палітычнага дыялогу, узровень нашых адносін. І, я думаю, само па сабе гэта ўжо мнагазначна.

Натуральна, ва ўсім свеце, перш за ўсё ў Савецкім Саюзе і ў Злучаных Штатах Амерыкі, і ў вас, журналістаў, мабыць, узнікае пытанне: што дала, куды вывела маскоўская сустрэча ў вярхах? Ці прыбавіла яна штосьці новае да папярэдніх сустрэч?

Пачну з таго, што ўсе мы з вамі—я ў гэтым перакананы—былі ўдзельнікамі буйной падзеі. Сустрэча, сапраўды, зноў паказала значэнне дыялогу паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі, яшчэ раз пацвердзіла правільнасць выбару шляху, зробленага ў Жэневе два з палавінай гады назад. Праз Рэйк'явік і Вашынгтон мы прыйшлі да Масквы. Гэта — унікальны працэс у гісторыі пасляваеннага перыяду.

Гэта вельмі важна ўсвядоміць усім—і палітыкам, і грамадскасці, якая праяўляе вялікую цікавасць да таго, як складваюцца адносіны паміж нашымі краінамі.

За тры гады знаходжання на пасадзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС у мяне адбылося больш двухсот сустрэч міжнароднага характару. Не помню практычна ніводнай сустрэчы—з сябрамі з сацыялістычных краін, з прадстаўнікамі капіталістычных, недалучаных краін, калі б не падкрэслівалася і не выказвалася зацікаўленасць у тым, каб савецка-амерыканскія адносіны былі б пераведзены ў нармальны, здаровы напрамак. Такая рэальнасць, якая вызначаецца вагой нашых краін.

І ўсё ж чаму стаў магчымы такі інтэнсіўны дыялог, такі працэс, які мае велізарнае значэнне?

Мне думаецца, дзякуючы рэалізму. Я гавару аб рэалізме ў палітыцы і Савецкага Саюза, і Злучаных Штатаў Амерыкі, бо наяўнасць такога падыходу толькі з аднаго боку не забяспечыла б магчымасць падобнага працэсу.

Не хачу займацца гаданнем адносна таго, куды б прывяло нас проціборства, калі б яно працягвалася і калі б у Крамлі і ў Белым доме своечасова не хапіла рашучасці павярнуць руль у патрэбным напрамку, ад канфрантацыі — да пошуку галін і сфер супрацоўніцтва, да нарошчвання палітычнага дыялогу.

Калі сталі зразумелымі рэальнасці, завязаўся дыялог, які суправаджаўся перагаворамі, і гэтыя перагаворы, у сваю чаргу, вывелі на пагадненні.

Адносіны, у якіх таілася страшная пагроза ўсяму свету, самому існаванню чалавецтва, сталі мяняцца: дзве самыя магутныя дзяржавы пачалі рэфарміраваць узаемаадносіны ў сваіх уласных інтарэсах і ў інтарэсах сусветнага супольніцтва.

Давалася гэта вельмі нялёгка. Некалькі мінут назад я сказаў пра гэта, калі мы абменьваліся з Прэзідэнтам ратыфікацыйнымі граматамі.

І хоць усё няпроста. Але ў цэлым працэс ідзе важны, прадуктыўны, пазітыўны.

Кожная з чатырох сустрэч была цяжкім, але і плённым пошукам балансу інтарэсаў. Кожная нарошчвала намаганні для знаходжання развязак буйнейшых праблем агульначалавечага значэння.

Для ілюстрацыі напомню вам пра Рэйк'явік, пра рэйк'явікскую драму. Гэта толькі адзін прыклад таго, як цяжка, часам у драматычных формах развіваецца палітычны дыялог паміж дзвюма сусветнымі дзяржавамі.

Якія ж вынікі чацвёртай сустрэчы? Самы галоўны — гэта працяг дыялогу, які ахоплівае цяпер усе вузлавыя праблемы сусветнай палітыкі, двухбаковых адносін. Маскоўская сустрэча зноў прадэманстравала, што дыялог выйшаў на рэальную палітыку.

Не скажу, што нашы сустрэчы вызваліліся ад прапагандысцкіх ходаў, дэмаршаў, спроб набіраць ачкі праз прапагандысцкія прыёмы. Але ўсё ж на гэтых сустрэчах усё больш прысутнічае імкненне, жаданне рабіць рэальную палітыку. Я перакананы, што гэта—правільны шлях, іменна так і трэба дзейнічаць.

Калі ў Вашынгтоне адразу ж на першай сустрэчы мы адчулі спробу даваць нам настаўленні, мы адвялі такі падыход і сказалі, што прыехалі займацца рэальнай палітыкай. Так мы дзейнічалі і на гэтай, чацвёртай сустрэчы. І таму для яе характэрна паглыбленая, часам вострая дыскусія, у тым ліку да апошняй мінуты перагавораў, ужо не за сталом, а стоячы, як у нас гавораць у Расіі, сценка на сценку.

Хацеў бы таксама падкрэсліць ідэю пераемнасці, якая панавала ва ўсёй атмасферы сустрэч. Вы гэта знойдзеце ў падагульняючым дакуменце. Лічу, што гэта маштабны дакумент. У ім ёсць думка аб тым, што ў дыялогу, у нашай чацвёртай сустрэчы закладваюцца цагліны ў будынак нашых будучых адносін, прадпасылкі руху ў XXI стагоддзе.

Што канкрэтна дасягнута?

Услед за палітычным дыялогам, які я стаўлю на першае месца, мы завяршылі працэс дагаворанасцей аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Падрыхтоўка да чацвёртай сустрэчы падштурхнула гэты працэс, і мы змаглі абмяняцца ратыфікацыйнымі граматамі. Гэта не проста фармальны акт. Дазволю сабе ўжыць такую ўрачыстую формулу: завяршэнне працэдур увядзення ў сілу Дагавора па РСМД зрабіла маскоўскую сустрэчу рубежнай палітычнай падзеяй у савецка-амерыканскім дыялогу, ды і ў сусветнай палітыцы.

Не толькі народы Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі, але і іх саюзнікі, уся сусветная грамадскасць, усё сусветнае супольніцтва могуць сябе павіншаваць. Гэта—агульная перамога розуму, рэалізму. Яна стала магчымай, таму што сёння на ўсіх кантынентах, ва ўсіх краінах незалежна ад сацыяльнага выбару і іншых каштоўнасцей, якія кожны народ выбірае і вызначае сам, ёсць агульнае разуменне таго, што свет апынуўся ля рысы, калі трэба спыніцца, калі трэба адкрыць шлях у другім напрамку — да бяз'ядзернага, ненасільнага свету, да аздараўлення міжнародных адносін.

Многія ўнеслі рэальны, істотны ўклад у дасягненне гэтай буйной перамогі. Я павінен адзначыць і ролю прэсы. Калі яна задавала цяжкія пытанні і палітыкам, і ўдзельнікам перагавораў, — гэта таксама быў патрэбны ўклад, бо пытанні журналістаў дапамагалі вывесці перагаворы на ўзровень канкрэтнасці, пераканаўчасці, дапамагалі знаходжанню развязак аргументаў, выпрацоўцы форм кантролю. Таму лічу сваім абавязкам адзначыць і прэсу.

Цяпер справа гонару — перш за ўсё Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі і не толькі іх, але і іншых дзяржаў, каб кожная літара і коска дагавора былі захаваны і праведзены ў жыццё.

Далей. Мы з Прэзідэнтам адобрылі сумесную заяву. Як я ўжо сказаў, яна падагульняе тое, што напрацавана пасля вашынгтонскай сустрэчы і што было зроблена тут, у Маскве. Адначасова заява пацвярджае свайго роду парадак дня савецка-амерыканскага дыялогу на будучыню. Словам, гэта важны палітычны дакумент, які знамяняе новы этап у нашых адносінах. Найбольш значнымі з'яўляюцца палажэнні, якія адносяцца да важнасці працягу і нарошчвання палітычнага дыялогу паміж краінамі, інтэнсіфікацыі перагавораў.

Я б адзначыў рух наперад і ў сферы раззбраення. Гэта вельмі цяжкі працэс, а асабліва ў пытанні аб стратэгічных наступальных узбраеннях. Гэта, відаць, самая складаная задача, з якой мы сутыкнуліся ў пасляваеннай сусветнай палітыцы. Але я павінен цвёрда сказаць, што мы крок за крокам рухаемся да дагавора аб скарачэнні гэтых узбраенняў.

Сёння хтосьці з карэспандэнтаў, магчыма, тут прысутнічаючых, спытаў: ці захоўваю я пасля прайшоўшых перагавораў аптымізм адносна заключэння гэтага дагавора яшчэ ў гэтым годзе, — яшчэ пры гэтай адміністрацыі? Магу сказаць, што, калі весці справу эфектыўна, калі цяперашняя адміністрацыя, абодва бакі будуць дзейнічаць эфектыўна, мы можам выйсці на дагавор.

Хачу звярнуць увагу на нашу моцна зрушаную наперад ініцыятыву па перагаворах аб скарачэнні ўзбраенняў і ўзброеных сіл у Еўропе. Яна была апублікавана, і не буду паўтарацца. Калі трэба штосьці ўдакладніць —вы зможаце задаць пытанні.

Падпісаны цэлы пакет пагадненняў, якія датычаць двухбаковых адносін паміж нашымі краінамі. Яны таксама апублікаваны.

Паглыблена абмяркоўвалася праблема рэгіянальных канфліктаў. Яна прысутнічала ва ўсіх нашых гутарках з Прэзідэнтам і на двух пленарных пасяджэннях. Асабліва падрабязна, з усёй грунтоўнасцю была разгледжана сёння. Думаю, што мы падышлі да такой сітуацыі, калі можна канстатаваць, што і тут, у «гарачых пунктах» планеты, паявіліся рэальныя магчымасці для вырашэння рэгіянальных праблем, развязвання гэтых тугіх «вузлоў» на аснове палітычных падыходаў, на аснове балансу інтарэсаў.

Па сутнасці, мы сёння канстатавалі наступнае: па-першае, ёсць Афганістан, я пра гэта яшчэ скажу. Па-другое, ёсць працэс па пытаннях Блізкага Усходу. Ён ідзе, і ёсць збліжэнне пазіцый, спее разуменне неабходнасці яго вырашэння на шляхах міжнароднай канферэнцыі. Гэта цяпер прызнана ўжо. Але размова ідзе пра тое, як разумець гэту канферэнцыю. У ходзе далейшай работы ўсе гэтыя пытанні будуць удакладнены.

Ёсць кампучыйская праблема. Дзякуючы ініцыятыве, якую праявілі В'етнам і Кампучыя ў апошнія дні, яна пераводзіцца ў плоскасць, калі можа вырашыцца ўжо ў бліжэйшы час.

Ідзе рэальны працэс, і магчыма развязка ў Цэнтральнай Амерыцы, на Поўдні Афрыкі і г. д.

Калі хтосьці ўспрымае мае разважанні як нейкі неапраўданы аптымізм, як спробу выдаць жаданае за сапраўднае, думаю, яны памыляюцца. Давайце ўспомнім, як гэта выглядала тры-чатыры гады назад і як гэта выглядае сёння. Сітуацыя істотна змянілася. Адкрыліся магчымасці для палітычнага вырашэння ўсіх гэтых канфліктаў. Прыведзены ў рух велізарныя сілы ў рамках гэтых рэгіёнаў і ў свеце ў цэлым. Я ўвесь час падкрэсліваў і ў гутарках з Прэзідэнтам, і з усімі амерыканскімі прадстаўнікамі галоўную думку — нам нельга страціць, упусціць шанц.

Я прама сказаў Прэзідэнту, што падпісаннем пагадненняў па Афганістану ствараецца прэцэдэнт, які выходзіць па сваёму значэнню за рамкі данай праблемы. Таму што гэта — першы выпадак, калі Савецкі Саюз і ЗША разам з канкрэтнымі ўдзельнікамі канфлікту падпісалі пагадненне, якое адкрывае шлях да палітычнага вырашэння. Мы пастараемся, зробім усё, каб быць вернымі пагадненням. Гэтага ж чакаем ад усіх іншых удзельнікаў пагадненняў, у тым ліку і ад Злучаных Штатаў Амерыкі. Думаю, што, калі ў нас на гэты раз не атрымаецца, не адбудзецца гэты пазітыўны прэцэдэнт, гэта будзе мець далёка ідучыя вынікі і адаб'ецца на падыходах да такога роду праблем у астатніх рэгіёнах.

А падставы для заклапочанасці ёсць. У апошні час адбыліся дзве падзеі, якія нас занепакоілі: па-першае, абстрэльваюць Кабул, савецкае пасольства, нашы войскі ў Кабуле; па-другое, учора у раёне Кандагара загінулі нашы таварышы, некалькі чалавек прапалі без вестак. Мы абяцалі, што савецкія войскі з моманту вываду войск не будуць удзельнічаць у ваенных дзеяннях. Мы так і дзейнічалі. Але мы агаворвалі, што яны будуць дзейнічаць такім чынам, калі не будзе правакацый і бандыцкіх нападаў на нашы войскі. Калі ж гэта адбудзецца, мы будзем рэагаваць адпаведным чынам. Гэта таксама павінна быць ясна.

Дагаворанасці ёсць дагаворанасці. Мы бачым, што робіць Пакістан, і ў сувязі з гэтым МЗС СССР выступіла з заявай. Не хачу ўдавацца ў дэталі, толькі падкрэсліваю, што ёсць спробы сарваць пагадненні, што мела б сур'ёзныя негатыўныя вынікі. Пра гэта з усёй праматой было сказана Прэзідэнту і ўсёй амерыканскай дэлегацыі.

Думаю, што Злучаныя Штаты Амерыкі і Савецкі Саюз могуць унесці канструктыўны ўклад у вырашэнне рэгіянальных канфліктаў на аснове палітычных падыходаў, улічваючы баланс інтарэсаў усіх удзельнікаў канфлікту, на аснове рэалізму.

Магу адзначыць пэўны прагрэс па гуманітарных пытаннях, правах чалавека. Я паставіў перад Прэзідэнтам пытанне такім чынам. Час ад часу ў гэтай сферы ўзнікаюць нейкія канкрэтныя праблемы. Мы іх заўсёды ўважліва разглядалі і вырашалі. І ў далейшым будзем разглядаць і вырашаць. Але чым больш я абдумваю сітуацыю, тым больш прыходжу да вываду, што ў амерыканскай адміністрацыі няма разумення рэальнага становішча з правамі чалавека, з працэсамі, якія ідуць у сферы дэмакратыі ў нас у краіне. Напэўна, і ў нас няма яснага разумення амерыканскай сітуацыі ў гэтай сферы жыцця. Я прапанаваў: давайце арганізуем у рамках міжпарламенцкага абмену семінар, дзе б сустракаліся прадстаўнікі нашых парламентаў, палітычных, грамадскіх колаў і абменьваліся інфармацыяй, ацэнкамі пра тое,

(Працяг на 3-й стар.)



**У час савецка-амерыканскіх перагавораў у Маскве.**

Друкуецца са скарачэннямі.

# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ М. С. ГАРБАЧОВА

(Працяг. Пачатак на 2-й стар.).

што адбываецца ў Амерыцы і ў нашым грамадстве ў данай сферы. Мы гатовы да гэтага.

Пакуль што ў пытаннях правоў чалавека вельмі многа спекуляцый. І я павінен сказаць, што ў гэтай частцы чацвёртай сустрэчы прэзваліравалі прапагандысцкія прыёмы, усялякія спектаклі. Таму, калі я даведаўся, праўда, са спазненнем, толькі сёння—не было калі чытаць газеты, — што наша прэса адпаведным чынам прарэагавала, прыйшоў да вываду, што яна правільна зрабіла, у рамках публічнасці. Трэба было паказаць нашаму народу і гэту частку візіту Прэзідэнта. Няхай народ ведае ўсё.

Я не ў захапленні ад гэтай часткі чацвёртай сустрэчы. Думаю, трэба займацца рэальнай палітыкай. Калі Прэзідэнт выказваў мне меркаванні адносна правоў чалавека ў Савецкім Саюзе, я таксама задаў многа пытанняў. І яму прыйшлося доўга растлумачваць: ён хацеў, каб я змяніў сваю думку аб становішчы з правамі чалавека ў Злучаных Штатах Амерыкі. Выслухаўшы яго, я сказаў: пан Прэзідэнт, вашы тлумачэнні непераканаўчыя, таму што я выкарыстаў факты, якія апіраюцца на даныя амерыканскага кангрэса, ужо не гавару аб прэсе, якая публікуе многа матэрыялаў па гэтаму пытанню. У маім становішчы лепш апірацца на афіцыяльныя даныя.

Думаю, што толькі так і трэба весці перагаворы. Давайце глядзець адзін на аднаго адкрытымі вачамі, давайце бачыць гісторыю, традыцыі, каштоўнасці адзін аднаго, паважаць выбар адзін аднаго, паважаць нашы народы. Бо выбар урэшце робяць яны. І, дарэчы, народы выступаюць за збліжэнне, за пазнаванне, за дружалюбнасць. І амерыканцы пра гэта гавораць. І нашы людзі гавораць адкрыта. Учора Прэзідэнту было многа сказана наконт гэтага. Давайце будзем прыслухоўвацца да таго, што хочуць нашы людзі. Палітыкі павінны, калі іх выбраў народ, улоўліваць тое, што выношвае народ, і рэалізоўваць гэта ў канкрэтнай палітыцы. Мы павінны дапамагаць гэтаму працэсу, калі ўжо мы настроіліся аздараўліваць савецка - амерыканскія адносіны і сітуацыю ў свеце ў цэлым.

Павінен сказаць, што істотным фактам візіту Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі ў Савецкі Саюз з'яўляецца тое, што ён меў магчымасць гаварыць з савецкімі людзьмі. Гэта быў першы візіт Прэзідэнта і яго жонкі, першае знаёмства, каб папоўніць свае ўражанні аб Савецкім Саюзе, аб савецкіх людзях. Многае было ў рамках праграмы, у радзе выпадкаў яны дзейнічалі па свайму выбару, за межамі праграмы. Істотным элементам з'явілася праграма пані Рэйган, якая дазволіла ёй азнаёміцца з Савецкім Саюзам.

Учора, калі Прэзідэнт гутарыў з нашымі людзьмі, там, дзе я прысутнічаў, хтосьці спытаў, і, па-мойму, прэса надрукавала гэта: пан Прэзідэнт, Вы да гэтага часу лічыце Савецкі Саюз «імперыяй зла»?

Ён адказаў, не. Прычым сказаў гэта на прэс-канферэнцыі ля цар-гарматы, у Крамлі, у цэнтры «імперыі зла». Прымаем гэта да ведама, значыць, як гаварылі старажытныя грэкі, «усё цячэ, усё мяняецца».

Гэта пацвярджае маю думку аб тым, што ў Прэзідэнта ёсць пачуццё рэалізму, і гэта вельмі важная якасць для палітыка. Трэба, якія б ні былі рэальнасці, смела глядзець ім у вочы. Толькі палітыка, пабудаваная на аналізе, ацэнках рэальных працэсаў, заслугоўвае называцца палітыкай.

Увогуле, я падвёў бы вынікі так: візіт Прэзідэнта, прайшоўшыя перагаворы паслужаць аздараўленню савецка-амерыканскіх адносін, іх развіццю і ўмацаванню, узнімуць іх на яшчэ больш высокі ўзровень.

Ці можна было дасягнуць большага? Гэта, натуральна, цікавіць і вас, і нас. У нас толькі што была дыскусія, з-за якой я са сваімі калегамі спазніўся на сустрэчу з вамі. Мы не завяршылі, не зрабіўшы кроку наперад, спыніўшыся на паўдарозе. Я павінен быў сказаць, ну што ж, палітыка — гэта майстэрства магчымага. Лічу, што можна было дасягнуць большага на гэтай сустрэчы.

Напрыклад, я прапанаваў Прэзідэнту зрабіць новы буйны крок у характарыстыцы палітычных рэальнасцей сучаснасці ў якасці платформы намераў і палітычных дзеянняў. Прычым я і мае калегі па кіраўніцтву зыходзілі з вопыту, які мы набылі пасля Жэневы. Тады мы канстатавалі: ядзерная вайна немагчымая, недапушчальная, у ёй не можа быць пераможцаў і наогул усякая вайна паміж Савецкім Саюзам і Амерыкай недапушчальная.

Гэта не азначала, што на другі дзень або другі тыдзень пасля сустрэчы ўсё будзе вырашана і ядзернай зброі не стане. Не, яна застаецца, але гэта сумесная канстатацыя мела велізарны сэнс, яна атрымала моцны рэзананс ва ўсім свеце. Цяпер мы ўсё больш прыходзім да вываду, што праблемы трэба вырашаць палітычным шляхам, на аснове балансу інтарэсаў, на аснове павагі сацыяльнага выбару народаў. І хочам мы гэтага ці не, але мы ўсе абавязаны вучыцца жыць у нашым рэальным свеце.

Калі вы возьмеце апошнюю кнігу, у якой змяшчаюцца выступленні Прэзідэнта, і кнігу выбраных артыкулаў і прамоў Генеральнага сакратара ЦК КПСС, то і ў першай і ў другой убачыце гэтыя заявы. І, зыходзячы з такога разумення, з урокаў, якія атрымалі з практыкі апошніх гадоў, мы прапанавалі — давайце ўключым гэту палітычную канстатацыю ў цяперашнюю сумесную заяву. Вось праект, які я ўнёс Прэзідэнту. Абодва мы, з улікам існуючых рэальнасцей у сучасным свеце, лічым, што ніякія спрэчныя праблемы не павінны вырашацца ваенным шляхам, што мы разглядаем мірнае суіснаванне як універсальны прынцып міжнародных адносін і што роўнасць усіх дзяржаў, неўмяшанне ва ўнутраныя справы і свабода сацыяльна-палітычнага выбару павінны быць прызнаны неад'емнымі і абавязковымі для ўсіх нормамі. Я даў Прэзідэнту рускі і англійскі тэксты. Ён прачытаў і сказаў: мне гэта падабаецца.

Калі мы сёння прыйшлі, каб узгадніць канчатковы тэкст сумеснай заявы, высветлілася, што не ўсім у акружэнні Прэзідэнта падабаецца такая фармуліроўка. І вакол гэтага пайшла дыскусія. Мы адчулі, што не падабаецца тэрмін «мірнае суіснаванне», таму што ён некалі ўжываўся ў дакументах, якія былі падпісаны савецкім кіраўніцтвам з Ніксанам і Кісінджэрам. Мы знялі гэты тэрмін, паколькі ён непрымальны, хоць на самой справе хочам суіснаваць, і, думаю, што гэта ніхто не падвяргае сумненню.

Паявіўся новы варыянт, прычым Прэзідэнт сам называў элементы гэтай формулы. Тым не менш яна ў такім выглядзе не паявілася ў падагульняючай заяве, хоць там і зроблены сур'ёзныя канстатацыі. Але яны маглі быць больш сур'ёзнымі і важкімі. Гэта зусім не азначае, што калі б мы сёння канстатавалі, што павінны ўзяць за аснову палітычныя метады вырашэння праблем і не рабіць стаўку на іх ваеннае вырашэнне, то заўтра ўжо знікнуць войскі і ўзбраенні.

Не, ядзерная зброя не знікла, пасля таго як мы канстатавалі ў Жэневе непрымальнасць і недапушчальнасць ядзернай вайны. Але гэта быў вельмі важны палітычны арыенцір і для савецка-амерыканскага дыялогу, і для дыялогу ў свеце. Мы лічылі гэта вельмі важнай канстатацыяй, тым больш што пра гэта сказалі паасобку кіраўнікі і Савецкага Саюза, і ЗША. Думаю, што на цяперашняй сустрэчы была ўпушчана магчымасць зрабіць буйны крок па фарміраванню цывілізаваных міжнародных адносін.

Не ўдалося дагаварыцца аб прадмеце перагавораў па звычайных узбраеннях у Еўропе. Мы прапанавалі выкарыстаць сустрэчу ў вярхах — і не заменяючы, вядома, венскі форум — аблягчыць яго работу. Бо размова ідзе аб тым, каб нам — Савецкаму Саюзу і амерыканцам — прыйсці да нейкай згоды, нейкага разумення, прычым па такому важнаму пытанню, як прадмет перагавораў. А іменна гэта цяпер стрымлівае працэс падрыхтоўкі мандата ў Вене. Гэта пазіцыя, дарэчы, нарадзілася ў Жэневе на сустрэчы пана Шульца і міністра замежных спраў Савецкага Саюза таварыша Шэварднадзе. І тым не менш пры пазітыўных адносінах да яе з абодвух бакоў яна не ўвайшла ў заяву. Хоць як быццам па добрапрыстойнай прычыне — маўляў, нязручна падмяняць дыялог у Вене.

А мы і не збіраліся падмяняць. Наадварот, мы хацелі яго аблягчыць, прапанаваўшы наш пункт погляду, які маглі б выкарыстаць удзельнікі венскай сустрэчы. Я вось аб чым думаю: як многа размоў пра тое, што нельга рухаць працэс ядзернага раззбраення, 50-працэнтнае скарачэнне, калі не будзе вырашацца праблема са звычайнымі ўзбраеннямі, скарачэннем узбраенняў у Еўропе. Але, як толькі мы выходзім на рэальныя прапановы, з тым каб рушыць гэты працэс, зноў пачынаюцца незразумелыя манеўры, адыход убок. Ва ўсіх на Захадзе выклікала занепакоенасць тое, што Варшаўскі пакт, нібыта, мае перавагу ў сілах. Калі ж мы сказалі: давайце абменяемся данымі, каб усё было ясна, другі бок ухіліўся ад адказу. Цяпер мы ўнеслі прапанову: давайце скажам, што мы выйшлі на разуменне прадмета перагавораў. Гэта аблегчыць работу ў Вене. Зноў не атрымалася. Не прынялі амерыканцы наш смелы і зусім рэалістычны план з трох этапаў і састаўных частак, накіраваны на ліквідацыю асіметрыі і дысбалансу ў Еўропе і рашучы пераход да стварэння на кантыненце сітуацыі ненаступальнай структуры ўзбраенняў і ўзброеных сіл, пры значна паніжаным узроўні. Лічу, што была ўпушчана добрая магчымасць надаць неабходную дынаміку перагаворам па змяншэнню небяспекі процістаяння паміж двума самымі магутнымі саюзамі, а значыць, і садзейнічаць міжнароднай бяспецы.

Палітыка — гэта майстэрства магчымага. Ва ўсякім разе, я б з таго, што не ўсё збылося, што магло атрымацца, не рабіў драматычныя вывады. Тым не менш павінен падзяліцца сваімі разважаннямі для таго, каб у вас было больш поўнае разуменне зместу перагавораў.

Перад тым як закончыць сваё выступленне, хацеў бы падзяліцца адным агульным уражаннем. Я не быў бы да канца сумленным і праўдзівым з вамі, калі б не сказаў пра гэта. У мяне складваецца ўражанне аб супярэчлівым характары амерыканскай пазіцыі. Гэта назіранне зроблена не толькі па выніках цяперашняй сустрэчы. Мы сутыкаліся з такой з'явай і раней.

У чым заключаецца гэта супярэчлівасць амерыканскага падыходу, амерыканскай пазіцыі? З аднаго боку, у нас ёсць сумесная заява аб тым, што вайны не павінна быць, што яна недапушчальная. Мы вядзём дзелавую размову аб скарачэнні ўзбраенняў, аб раззбраенні, гаворым аб пераважнасці палітычных вырашэнняў праблем. А з другога боку, пастаянна чуем, чулі і на гэты раз у Маскве, і многа разоў перад ад'ездам Прэзідэнта да нас — аб стаўцы на сілу. Значыць сіла, узброеная сіла, ваенная магутнасць абвяшчаецца як галоўны прынцып палітыкі Злучаных Штатаў у адносінах да Савецкага Саюза, ды і не толькі Савецкага Саюза.

Як сумясціць жэнеўскія канстатацыі з гэтым падыходам? З аднаго боку, мы з Прэзідэнтам канстатуем, што абодва нашы народы хочуць жыць у міры, у супрацоўніцтве і нават сябраваць. Гэта вынікае і з таго, што гавораць простыя людзі. Я чытаў амерыканскую прэсу. На пытанне, якімі яны хочуць бачыць нашы адносіны ў 2000 годзе, амерыканцы аддавалі перавагу не сапернiцтву, а развіццю дружалюбных адносін і супрацоўніцтва.

Здавалася б, мы павінны зыходзіць з гэтага, кіравацца воляй нашых народаў. У рэальнай палітыцы гэта не атрымліваецца. Прыкметна гэта і ў сферы эканамічных сувязей. Відавочнаму інтарэсу аўтарытэтнай часткі амерыканскага дзелавога свету супрацоўнічаць з намі процістаяць забароны, абмежаванні, а то і проста запалохванні. У адносінах да нас у Злучаных Штатах дзейнічае рэжым найбольшага неспрыяння.

Учора ў нас была вялікая размова з Прэзідэнтам на гэту тэму. Я сказаў: чаму мёртвыя павінны хапаць за фалды жывых, маючы на ўвазе папраўку Джэксана і Вэніка. Адзін з іх мёртвы, а другі — палітычна мёртвы. Чаму яны нас павінны трымаць? Гэта ж рабілася ў зусім іншай сітуацыі, дзесяцігоддзі назад.

Сёння ў зусім іншым, змененым свеце мы павінны думаць і будаваць сваю палітыку на аснове цяперашніх рэальнасцей. Гэта нагадвае мне англійскае заканадаўства, дзе сённяшнія проціпраўныя ўчынкі судзяць на аснове законаў 1200—1300 гадоў.

У кожнага — свае традыцыі. Я іх не асуджаю. Гэта справа англічан, няхай англійскія карэспандэнты на мяне не крыўдзяцца. Але ў палітыцы ўсё-такі трэба зыходзіць з сённяшніх рэальнасцей і нават заглядваць у будучыню. Я сказаў Прэзідэнту: мы ўжо даказалі, што можам эканамічна жыць адзін без аднаго, цяпер трэба даказаць, што можам супрацоўнічаць, тым больш, што мы проста асуджаны на супрацоўніцтва. Альтэрнатыва гэтаму вядзе ў зусім непрадказальным напрамку. Нельга мець трывалае супрацоўніцтва без таго, каб яно не апіралася на гандаль, на эканамічнае супрацоўніцтва.

Я нават рызыкнуў бы так паставіць пытанне: чым больш мы будзем залежаць адзін ад аднаго эканамічна, тым мы больш будзем прадказальнымі ў палітычным плане.

Вы згодны? Вы можаце не гаварыць, проста адкажыце ў сваіх газетных каментарыях.

Гэту супярэчнасць мы бачым у сферы прапаганды і ў паводзінах афіцыяльных асоб, асабліва па пытаннях правоў чалавека. Мы гаворым: так, мы незалежныя, кожны народ мае права на сацыяльны выбар, апіраецца на свае каштоўнасці. Так, мы розныя, але гэта — не прычына для канфрантацыі, тым больш для вайны. Добра, што ёсць разнастайнасць. Гэта прычына для супастаўленняў, штуршок для думкі, для меркаванняў. Мы можам заставацца самімі сабой, але жыць нармальна, у цывілізаваным свеце.

Пакуль жа мы не заўважылі з боку амерыканцаў сур'ёзнага жадання арыентавацца на новыя з'явы, улічваць змены ў нашым грамадстве.

Калісьці Маякоўскі гаварыў: калі ж зоркі запальваюць, значыць, гэта некаму патрэбна? Значыць, некаму гэта выгадна. Але я ўпэўнен, што нашы народы прытрымліваюцца іншай думкі. А гэта рашаючы фактар пры вызначэнні палітыкі. Гэта супярэчлівасць у амерыканскай палітыцы, у паводзінах адміністрацыі ЗША расчароўвае нашых людзей.

І ўсё ж, вяртаючыся да агульнай ацэнкі чацвёртай савецка-амерыканскай сустрэчы, хацеў бы сказаць, што гэта вялікая падзея. Дыялог працягваецца, пераемнасць атрымала дадатковы імпульс, савецка-амерыканскія адносіны рушылі наперад. Не ведаю, на адну або на дзве ступені, але ва ўсякім разе ўзняліся на новыя ступені. І гэта само па сабе з'яўляецца знамянальным фактам у сусветнай палітыцы.

Вось што я хацеў вам сказаць.

Затым М. С. Гарбачоў адказаў на пытанні журналістаў.

**Пытанне** (газета «Известия»). Міхаіл Сяргеевіч, Вы з Прэзідэнтам Рэйганам правялі рад плённых сустрэч. Праз восем месяцаў ён пакіне Белы дом. Ці дапускаеце Вы магчымасць такіх жа рэгулярных кантактаў на вышэйшым узроўні з наступным прэзідэнтам? Ці дапускаеце Вы магчымасць азнаямленчай сустрэчы неўзабаве пасля таго, як наступны прэзідэнт ЗША зойме пасаду?

**Адказ.** Не толькі дапускаю, але лічу гэта неабходным, жыццёва неабходным.

**Пытанне** (тэлекампанія Сі-бі-эс, ЗША). Вы двойчы ўпамянулі аб упушчаных магчымасцях на перагаворах па СНУ. Вы таксама гаварылі аб тым, што палітыка — гэта майстэрства магчымага. Таму хачу Вас спытаць, ці магчыма заключыць дагавор па СНУ яшчэ з цяперашняй адміністрацыяй ЗША, калі амерыканскі бок будзе працягваць настойваць на выкананні праграмы САІ?

**Адказ.** Я ўпэўнен: яшчэ ёсць магчымасць мець дагавор у гэтым годзе. Па-першае, мяне ў гэтым аптымізме падтрымлівае рух наперад, які дасягнут паміж Вашынгтонам і Масквой за гэты перыяд, і той абмен думкамі, які праходзіў тут амаль кругласутачна. Ён дае магчымасць выказваць такую аптымістычную ацэнку.

**Пытанне** (газета «Месаджэра», Італія). Хацеў бы спытаць, ці гаварыў Прэзідэнт Рэйган што-небудзь аб абавязацельствах ЗША па жэнеўскіх пагадненнях па Афганістану пасля Вашых выказванняў?

**Адказ.** Не толькі Прэзідэнт, але і ўсе члены дэлегацыі ЗША, як мне здалося, разумеюць значэнне паспяховага вырашэння афганскага канфлікту на тых прынцыпах, якія былі закладзены ў Жэневе. Думаю, што абмен думкамі, які адбыўся на гэту тэму, быў адкрытым і карысным.

**Пытанне** («Нэшнл паблік рэдыо», ЗША). Пан Генеральны

(Заканчэнне на 4—5-й стар.).

# ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ М. С. ГАРБАЧОВА

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й—3-й стар.).

сакратар, некалькі разоў на працягу апошніх дзён у Вас пыталіся, ці магчымая пятая сустрэча на вышэйшым узроўні з Прэзідэнтам ЗША. Вы, як правіла, адказвалі, што яна магчымая, але ўсё залежыць ад таго, як пойдуць справы на маскоўскай сустрэчы. Ці дасягнуты на ёй такі прагрэс, які апраўдваў бы правядзенне пятай сустрэчы ў вярхах з Прэзідэнтам Рэйганам восенню гэтага года?

**Адказ.** Я дапускаю магчымасць правядзення сустрэчы толькі з адной умовай — калі ў нас будзе магчымасць выйсці на дагавор аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў з улікам усяго комплексу пытанняў, у тым ліку і праблемы ПРА, і крылатых марскіх ракет. У дэталі я не ўдаюся. Гэта ўсё знаходзіцца ў сферы перагавораў і абмену думак. Паколькі я канстатую магчымасць выхаду на дагавор, то лічу, што магчымасць пятай сустрэчы застаецца пакуль што рэальнай. Толькі з гэтым пытаннем я звязваю магчымасць пятай сустрэчы.

**Пытанне** (газета «Нью-Йорк дэйлі ньюс», ЗША). Усіх нас уразіла тая ступень адкрытасці, якая існуе ў вашым грамадстве. Учора амерыканцаў таксама ўразіў тон выступлення Прэзідэнта Рэйгана ў МДУ. Аднак мы былі здзіўлены тым, што ў савецкім друку не было ні слова пра гэта выступленне Прэзідэнта. Якая Ваша рэакцыя на гэта выступленне?

**Адказ.** На жаль, я пакуль што не змог азнаёміцца з выступленнямі Прэзідэнта Рэйгана ні на сустрэчы з пісьменнікамі, ні на сустрэчы ў МДУ. Тым не менш я лічу, што гэтыя сустрэчы былі карыснымі. Па крайняй меры таварышы, якія ў курсе гэтых сустрэч, сказалі, што яны былі карыснымі. Што датычыць нашай прэсы, то яе прадстаўнікі тут прысутнічаюць, і калі яны штосьці яшчэ не паспелі апублікаваць, то, я думаю, яны гэта зробяць.

**Пытанне** (агенцтва САНА, Сірыя). Міхаіл Сяргеевіч, арабскія краіны высока ацэньваюць Вашы нядаўнія справядлівыя словы ў адрас палесцінскага народа, які вядзе ў гэтыя дні мужную барацьбу супраць ізраільскіх акупантаў. Скажыце, калі ласка, чаго Вы дасягнулі на вашых сустрэчах з панам Рэйганам па палесцінскаму пытанню і па блізкаўсходняму ўрэгуляванню наогул?

**Адказ.** Мы канстатавалі, што паявіліся рэальныя моманты, якія адносяцца да палітычнага ўрэгулявання становішча на Блізкім Усходзе.

Па-першае, ёсць у сусветным супольніцтве, і ў тым ліку ў пастаянных членаў Савета Бяспекі, разуменне неабходнасці гэта рабіць усё-такі ў рамках міжнароднай канферэнцыі. Іншая справа, што яшчэ не праяснілі пытанне аб яе змесце. Затым, ёсць разуменне, што існуюць інтарэсы Сірыі, існуюць інтарэсы палесцінскага народа, існуюць інтарэсы Ізраіля, інтарэсы іншых краін, якія ўваходзяць у гэты рэгіён і закрануты гэтым канфліктам.

Мы за тое, каб усё вырашалася на аснове палітычнага ўрэгулявання, з улікам інтарэсаў усіх удзельнічаючых бакоў і, зразумела, з улікам прынцыповых палажэнняў адпаведных рэзалюцый ААН. Размова ідзе аб тым, каб былі вернуты ўсе землі, акупіраваныя Ізраілем, каб правы палесцінскага народа было адноўлена. Мы сказалі Прэзідэнту Рэйгану аб тым, як уяўляем сабе ролю Злучаных Штатаў Амерыкі, але мы не можам вырашаць за арабаў, у якой форме будуць удзельнічаць у міжнароднай канферэнцыі палесцінцы. Няхай арабы вырашаць самі, а нам і амерыканцам трэба праявіць павагу да іх выбару.

Далей, мы павінны прызнаць права на бяспеку Ізраіля, права палесцінскага народа на самавызначэнне. У якой форме— няхай вырашаць самі палесцінцы са сваімі сябрамі-арабамі. Гэта адкрывае магчымасць для жывога абмену, рэальнага працэсу. Ва ўсякім разе, мне здаецца, паяўляецца такая магчымасць.

Я падзяляюся з вамі яшчэ адным — мы сказалі: калі пачнецца канферэнцыя —нармальная, дзейсная канферэнцыя, а не проста парасон для сепаратных перагавораў,— форум, які быў бы ўзаемазвязаны з двухбаковымі, трохбаковымі, іншымі формамі работы, мы гатовы будзем заняцца пытаннем урэгулявання дыпламатычных адносін з Ізраілем.

Так што мы ўносім яшчэ адзін новы элемент. Гэта гаворыць пра тое, што мы цвёрда стаім на глебе рэальнасці, на глебе прызнання балансу інтарэсаў. І, вядома, ёсць галоўныя пытанні — вяртанне зямель, права на самавызначэнне палесцінскага народа. Павінен яшчэ раз сказаць: мы зыходзім з таго, што ізраільскі народ і дзяржава Ізраіль маюць права на сваю бяспеку, таму што не можа быць бяспекі аднаго за кошт другога. Павінна быць знойдзена такое рашэнне, якое развяжа гэты вельмі тугі вузел.

**Пытанне** (газета «Трыбуна люду», ПНР). Таварыш Генеральны сакратар, раніцай Вы сказалі, што пытанні звычайных узбраенняў у Еўропе будуць разглядацца сёння. Цяпер Вы сказалі, што Захад адмаўляецца ад савецкай прапановы ў гэтай галіне. Мы ведаем, што Ваша ініцыятыва ўключае таксама прапановы іншых сацкраін, у тым ліку і Польшчы. Якім Вы бачыце будучае рашэнне гэтага пытання? Чаго можна чакаць пасля Вены? У нашай жа праграме ёсць нават некаторыя адказы на пажаданні заходніх краін, сацыял-дэмакратычных і іншых партый.

**Адказ.** Для таго каб быць поўнасцю аб'ектыўным, павінен сказаць: амерыканскі бок не адмаўляецца ад разгляду прадмета перагавораў на аснове дагаворанасцей, якія былі дасягнуты ў Жэневе на сустрэчы нашых міністраў замежных спраў. Ён ухіліўся ад таго, каб выказацца і сумесна зафіксаваць адносіны да гэтага пытання на сустрэчы ў Маскве.

Таму я павінен быць абсалютна аб'ектыўным, каб не кідаць цень на амерыканскі бок, калі размова ідзе аб такіх важных пытаннях. Аргументуюць гэта тым, што ім, маўляў, трэба параіцца з іншымі ўдзельнікамі. Мы ж лічым, што тое, што мы прапанавалі, не супярэчыць неабходнасці раіцца. Відаць, штосьці не дагаворваецца. Тым не менш я лічу, што перспектывы вызначэння мандата венскай канферэнцыі рэальныя.

Павінен сказаць, што пытанне аб мандаце гэтай канферэнцыі ў нейкай меры ўвязвалася амерыканскім бокам з іншымі пытаннямі НБСЕ, асабліва з гуманітарнай сферай. Там таксама ідзе працэс жывы, актыўны, ідзе сутыкненне думак, іх супастаўленне. Лічу, што развязкі магчымыя.

Мы думаем, што Савецкі Саюз з сваёй знешняй палітыцы заўсёды павінен улічваць думку і Усходняй, і Заходняй Еўропы. І іменна так мы стараемся весці справу са сваімі саюзнікамі. Цяпер гэта лепш робіцца, у нас ідзе рэгулярны абмен думкамі. І з заходнееўрапейскімі краінамі мы стараемся весці справу так, каб былі поўная яснасць і разуменне. Мы хочам разам будаваць наш агульнаеўрапейскі дом.

**Пытанне** (англійскі журналіст). Шырока распаўсюджана думка, што адрозненні паміж амерыканскім падыходам да праграмы САІ і Вашай пазіцыяй з'яўляюцца галоўнай перашкодай на шляху да заключэння дагавора па СНУ. Ці ўдалося Вам дабіцца якога-небудзь прагрэсу ў справе ліквідацыі разыходжанняў у адносінах да праграмы САІ ў ходзе гэтай сустрэчы ў вярхах? Калі так, то які канкрэтна прагрэс быў дасягнуты ў гэтым плане? Ці лічыце Вы па-ранейшаму, што гэта з'яўляецца буйнейшай перашкодай на шляху да заключэння дагавора па СНУ?

**Адказ.** Спачатку — на апошняе пытанне. Так, лічу, таму што гэта азначае дэстабілізацыю. Не ўкладваецца ў нармальную логіку — згортваць стратэгічныя наступальныя ўзбраенні на Зямлі і перакідваць мост для гонкі ўзбраенняў у космас. Амерыканскі бок нас пераконвае, што гэта толькі абаронная зброя.

Мы так не лічым. І кампетэнтныя выказваць такое меркаванне. Калі гонка ўзбраенняў будзе перанесена ў космас, гэта тоіць пагрозу надзвычай сур'ёзнай дэстабілізацыі ўсёй сітуацыі ў свеце. Я Прэзідэнту напомніў: мы канстатавалі ў Жэневе, што не будзем імкнуцца да ваеннай перавагі. У Вас, сказаў я яму, склалася думка, што Вы маеце магчымасць абагнаць нас праз космас, дасягнуць перавагі. Вы, такім чынам, адступаеце ад жэнеўскай канстатацыі. У нас была вострая дыскусія па філасофскаму аспекту гэтай «абароннай» сістэмы.

Быў і яшчэ адзін момант. Амерыканскі бок, каб нас пераканаць падтрымаць САІ, заявіў аб сваёй гатоўнасці падзяліцца з намі сакрэтамі, калі дасягне якіх-небудзь рэальных вынікаў у гэтай справе. Я сказаў Прэзідэнту: пан Прэзідэнт, дазвольце не згадзіцца з Вамі і паставіць пад сумненне гэта запэўніванне. Мы з Вамі цяпер ніяк не можам дагаварыцца аб кантролі за наяўнасцю крылатых ракет марскога базіравання на двух або трох відах караблёў. Вы не гатовы да гэтага і ніяк не згаджаецеся. Як жа мы можам паверыць, што вы раптам адкрыеце ўсе сакрэты па САІ? Гэта несур'ёзна, гэта за рамкамі рэальнай палітыкі.

Тым не менш, праводзячы такую філасофскую дыскусію ваенна-стратэгічнага плана, мы дагаварыліся ўсё ж дзейнічаць на аснове вашынгтонскай заявы, тым больш што там ёсць некалькі канкрэтных рэчаў.

Праілюструю: савецкі бок, выступаючы за строгае выкананне Дагавора па ПРА і за абавязацельства нявыхаду з яго на працягу ўзгодненага тэрміну, улічваючы пазіцыю амерыканскага боку, унёс кампрамісную прапанову па пытанню, па якім ёсць рознагалоссі. У прыватнасці, мы прапанавалі ажыццявіць наступнае.

Першае — абмен данымі, якія маюць адносіны да работ у галіне ПРА, сустрэчы экспертаў, узаемныя наведванні выпрабавальных палігонаў, дзе праводзяцца работы ў гэтай галіне.

Другое — абмен інфармацыяй у мэтах прадухілення няўпэўненасці ў выкананні прынятых бакамі абавязацельстваў.

Трэцяе — кантроль за захаваннем выканання абавязацельстваў, аж да інспекцый на аб'ектах, у адносінах да якіх узнікае заклапочанасць бакоў.

Чацвёртае — праведзенне кансультацый для разгляду сітуацый, якія ставяць, на думку аднаго з бакоў, пад пагрозу яго вышэйшыя інтарэсы.

У ходзе кансультацый бакі выкарыстоўваюць усе даступныя меры для ўрэгулявання сітуацый па ўзаемапрымальнай аснове.

Такім чынам, завяршэнне распрацоўкі дагавора аб 50-працэнтным скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў у 1988 годзе, як бачыце, запатрабуе нямала намаганняў, але мы застаёмся ўпэўненымі ў тым, што гэта магчыма.

Вось я ўпершыню даў такі падрабязны адказ на гэта пытанне.

**Пытанне** (савецкі часопіс «США: экономика, политика, идеология»). У Маскву прыехалі не толькі журналісты, але і палітолагі, якія лічаць сябе экспертамі па амерыканскай тэме. Многія з іх гавораць, што кансерватыўныя сілы ЗША, якія спрабавалі сарваць ратыфікацыю дагавора, цяпер кансалідуюцца, лічачы, што працэс развіцця адносін паміж СССР і ЗША ідзе занадта хутка і што яны прымуць усе меры, каб незалежна ад пазіцыі будучай адміністрацыі сарваць гэты рух або павярнуць яго назад. Ці гаварылі Вы пра гэта з Прэзідэнтам Рэйганам і што Вы думаеце наконт гэтых сіл?

**Адказ.** Думаю, калі вы задасцё гэта пытанне пану Прэзідэнту, ён будзе хутка перад вамі выступаць,— то ён лепш адкажа. Ва ўсякім разе, на нас думка амерыканскіх кансерватараў зробіць мала ўплыву.

**Пытанне** (тэлекампанія Эн-бі-сі, ЗША). Адносна вашых кансерватараў, пан Генеральны сакратар. У Амерыцы, а таксама ў вас праводзіўся аналіз, згодна з якім у вас засталося тры ці пяць гадоў для таго, каб забяспечыць поспех перабудовы. Калі вам гэта не ўдасца зрабіць, то тады вас апярэдзяць кансерватары і крытыкі ў самой Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Дайце Вашу асабістую ацэнку, што дасягнута для таго, каб забяспечыць поспех перабудовы, неабходны для выжывання вашага вялікага грамадства.

**Адказ.** Я вам скажу так. Самае галоўнае ў нашай перабудове заключаецца ў тым, што мы праз дэмакратыю і публічнасць мы ўключылі ў яе народ, а праз удасканаленне нашай палітычнай сістэмы грунтоўна ўмацуем гэту тэндэнцыю. Можа, куды-небудзь перабудова яшчэ і не дайшла і не закранула працэсы, але сёння яна прысутнічае ўжо ўсюды.

Вось гэтымі днямі былі дэбаты на Сахаліне, якія закончыліся тым, што сабраўся пленум абласнога камітэта партыі і абмяркоўвай думкі працоўных, камуністаў. Пленум прызнаў справядлівымі іх заўвагі і патрабаванні, прызнаў неабходным умацаваць партыйнае кіраўніцтва вобласці, прыняў рашэнні, неабходныя для таго, каб працэс дэмакратызацыі набіраў сілу на Сахаліне. Так што і да Сахаліна дайшла перабудова. Але яна ідзе і ўглыб, пранікаючы ва ўсе сферы.

За тры гады ніхто не прапанаваў пераканаўчай альтэрнатыўнай палітыкі перабудове, і я ўпэўнен, што яе няма. Трэба перабудоўвацца, абнаўляць краіну на аснове нашых прынцыпаў, нашых ідэалаў, выкарыстоўваючы велізарны матэрыяльныя, духоўныя, інтэлектуальныя патэнцыял грамадства. І партыя і народ моцныя для таго, каб ажыццявіць перабудову і зрабіць рывок. Перабудове альтэрнатывы няма, перабудова атрымае перамогу. У яе могуць быць асобныя адступленні, манеўры, нават зрывы, але гэта не зменіць галоўнага напрамку ў развіцці нашага грамадства. Мы сталі на шлях незваротных перамен.

**Пытанне** (газета «Дзіарыу дэ натысіяш», Партугалія). Не маглі б Вы выказацца, перш за ўсё, адносна Анголы. Па-другое, гаворачы аб выніках сустрэчы, Вы некалькі разоў паўтаралі словы «страцілі», «упусцілі шанц».

**Адказ.** Лепш «упусцілі», чым «страцілі». «Страцілі» — гэта назаўсёды, а «ўпусцілі»—толькі на гэтай сустрэчы, і мы захоўваем магчымасць выкарыстаць гэты шанц у будучым.

Што датычыць Анголы, то павінен сказаць, што быў цікавы, змястоўны і рэалістычны абмен думкамі. І з нашага і з амерыканскага боку канстатавалася магчымасць руху наперад да ўрэгулявання гэтага рэгіянальнага канфлікту. Прычым з абодвух бакоў падкрэслівалася — пры абавязковым выкананні вядомых рэзалюцый Савета Бяспекі ААН і пры выключэнні ўмяшання ПАР у справы Анголы, а таксама прадастаўленні незалежнасці Намібіі. Мы не прамыя ўдзельнікі гэтага працэсу, але мы падтрымалі перагаворы, якія ідуць паміж ангольцамі, кубінцамі і ПАР пры пасрэдніцтве Злучаных Штатаў Амерыкі. Калі ўсе яго ўдзельнікі лічаць, што Савецкі Саюз павінен больш канкрэтна падключыцца акрамя таго, што ён выказвае свае меркаванні, мы гатовы і да гэтага. Ва ўсякім разе, ішла такая размова: яна грунтавалася на разуменні, што гэты працэс можа прывесці да пазітыўнага выніку.

**Пытанне** (газета «Известия»). У першую чаргу хачу сказаць, што наша газета сёння апублікавала даволі падрабязную справаздачу аб выступленнях Прэзідэнта Рэйгана ў Доме літаратараў і ў МДУ. Гэта ў адказ на пытанне маіх амерыканскіх калег. Мы, хто сачыў за амерыкана-савецкім дыялогам, заўсёды адчувалі, што на першым этапе цяжкасці ў галіне кантролю і інспекцый зыходзілі з нашага боку. Цяпер нам здаецца, што гэты акцэнт перайшоў да амерыканскага боку. Ці пацвердзіла цяперашняя сустрэча ў вярхах наяўнасць такой пераарыентацыі?

**Адказ.** Вашы назіранні правільныя. І мы вялі пра гэта размову, грунтуючыся на фактах. Аказалася, што ў мінулых заявах было многа блефу. А цяпер, калі заняліся рэальнымі працэсамі, мы настроены вельмі рашуча. Кантроль павінен быць сапраўдным, дзейсным. У галіне кантролю дзякуючы вопыту, які атрыман на аснове распрацоўкі Дагавора па ракетах сярэдняй і меншай дальнасці, мы цяпер канструктыўна ўзаемадзейнічаем. Думаем, што развязкі будуць знойдзены і па гэтых пытаннях.

**Пытанне** (газета «Уніта», Італія). Прэзідэнт Рэйган цытаваў прыказку «Нараджайся — не спяшайся». Тым не менш мы назіраем рашучы паварот да лепшага ў адносінах паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі. Якая роля Еўропы ў гэтым працэсе і ці не думаеце Вы, каб Еўропа ўключалася больш актыўна ў гэты працэс?

**Адказ.** Ва ўсіх працэсах да гэтага часу Еўропа не толькі прысутнічала, але і актыўна ўдзельнічала ў фармуляванні праблем, якія з'яўляліся прадметам дыскусій на сустрэчах у вярхах паміж Прэзідэнтам Злучаных Штатаў Амерыкі і Генеральным сакратаром. Гэта таксама адносіцца да нашых саюзнікаў ва Усходняй Еўропе. Так што Еўропа — і Усходняя, і Заходняя — заўсёды прысутнічае і ўдзельнічае, актыўна ўносіць свой уклад. Мы так і будзем дзейнічаць. Ведаю, што пра гэта ж заяўляў Прэзідэнт Рэйган. Больш таго, сёння, калі свет шукае адказы на вострыя і цяжкія пытанні, без Еўропы, якая мае унікальны вопыт — гістарычны, інтэлектуальны, дыпламатычны, палітычны — без еўрапейскага ўкладу я не ўяўляю сабе паспяховага вырашэння міжнародных праблем.

**Пытанне** («Литературная газета»). У апошнім нумары нашай газеты апублікавана заметка нашага карэспандэнта ў ЗША Іоны Андронава адносна 300 савецкіх ваеннаслужачых у Афганістане, якія былі перакінуты на тэрыторыю Пакістана насільна. Следам за гэтым адрасу ж пайшлі пісьмы ў рэдакцыю аб іх лёсе. Гаворачы аб рэгіянальных канфліктах, ці не ўзнімалася гэта пытанне ў час

## НАТАТКІ ЖУРНАЛІСТА

## З НАШУМЕЛАЙ ВЫСТАЎКІ

# ...І ЎЗЫШЛІ ПАПЯРОВЫЯ КВЕТКІ

НА ВЕРНІСАЖЫ Аляксандра Ісачова ў Мінску было ўсяго каля 20 чалавек. Выстаўка абяцала прайсці незаўважанай сталічнымі гледачамі, дастаткова збалаванымі за апошнія два гады ўсялякага роду мастацкімі навацыямі. За гэты час мы пазнаёміліся ўжо з творчасцю маладых беларускіх авангардыстаў, фармалістаў, прадстаўнікоў іншых напрамкаў у выяўленчым мастацтве. Усе яны атрымалі правы на жыццё, не заваяваўшы, тым не менш, вялікай колькасці прыхільнікаў. Імя ж Ісачова нават у мастакоўскім асяроддзі (і тым больш сярод шырокай публікі) было ў нас амаль невядомае. (Куды лепш ведалі яго за мяжой, дзе апынуліся многія работы мастака і дзе вакол яго імя адразу ўзнік прапагандысцкі ажыятаж. Скажам, нацыяналістычная газета «Беларус» пісала, што «савецкія бюракраты труцілі жыццё Ісачову, бо ён не ўкладаўся ў казённыя рамкі сацрэалізму»). Праўда, восенню мінулага года ў рэспубліканскім друку з'явіўся артыкул, аўтар якога пазнаёміў чытачоў з маладым і таленавітым хлопцам з Рэчыцы, з перыпетыямі яго нялёгкага лёсу.

Ужо ў час работы выстаўкі Ісачова ў Мінску маладзёжная газета «Знамя юности» надрукавала нататкі свайго ўласнага карэспандэнта, дзе паведамлялася, што «гэта першая пасля раптоўнай смерці маладога мастака выстаўка ў нас у краіне».

І неўзабаве пасля гэтага трапіць на выстаўку Ісачова ў Мінску стала нялёгка: узрушаныя мінчане — кожны на свае вочы хацеў убачыць работы мастака, які быццам бы дасягнуў такога тэхнічнага майстэрства, якое можна параўнаць з майстэрствам мастакоў Рэнесансу — імгненна стварылі чаргу, якая расла адпаведна ажыятажу і розным чуткам. Недарэчная і незразумелая смерць Аляксандра Ісачова ў 32 гады ахутала яго імя арэолам таямнічасці і загадкавасці. Рэпутацыя ж пакутніка, ізгоя, якога не прымала грамадства, яго самаахвярнага самаспалення ў працы, прымусіла гледача актыўна «хварэць» за мастака, нават ідэалізаваць яго і ўзносіць. Яго імя сталі ставіць у адзін рад з Шагалам, гаварылі шэптам, што другога такога мастака ў нас няма.

Некаторыя, найбольш рашучыя, нават запатрабавалі прыцягнуць да адказнасці афіцыйных асоб з Саюза мастакоў БССР і з Міністэрства культуры рэспублікі, якія, маўляў, загубілі талент і нават жыццё мастака.

Пра тых, хто на самай справе загубіў талент, трохі пазней. А зараз пра самога мастака.

Лёс даў яму шанц. Здольнага хлопчыка з Мазырскай школы-інтэрната накіравалі вучыцца ў Мінскую рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву. За нязначную правіннасць Саша быў выключаны адтуль з восьмага класа. «І без вас буду мастаком»,— з крыўдай сказаў ён тады настаўнікам. Юнак вярнуўся дамоў у Рэчыцу, уладкаваўся рабочым на будоўлю. А ў вольны час браўся за аловак і пэндзаль, бо без мастацтва не ўяўляў свайго жыцця. А неўзабаве вырашыў паехаць у Ленінград паглядзець шэдэўры, спадзяваўся набрацца духоўных сіл, а можа і майстэрства, ведаў, якіх так не хапала.

Яго прынялі ў свой цэх, як піша маладзёжная газета «Знамя юности», ленінградскія мастакі-мадэрністы. Разам з імі ён удзельнічае ў выстаўках так званых «нефармалаў», дзе паказвае карціны, напісаныя ў манеры, блізкай да сюррэалізму. Поспеху не мае. Аднак у гэты цяжкі момант правінцыяла падтрымаў ленінградскі калекцыянер (і дзялок) Г. Міхайлаў. «Выдаючы сябе за мецэната, ён прадаставіў маладым мастакам сваю кватэру, дзе яны маглі выстаўляць свае карціны, наладжваць дыскусіі,—піша ў артыкуле «Майстар і Афрадыта, або Пра няпросты лёс беларускага мастака» ў газеце «Советская Белоруссия» карэспандэнт БелТА,—запрашаў «дасведчаных» людзей, у тым ліку і замежных. За пышнымі застоллямі, якія, дарэчы, аплачваліся з ганарару за рэалізаваныя карціны, гучалі, як здавалася спачатку Аляксандру, свабодалюбівыя прамовы, а на самай справе ішла прафесійная антысавецкая апрацоўка маладых, прагных да славы мастакоў. Некаторыя з іх клюнулі на хітра схаваную прынаду, эмігравалі на Захад, паспеўшы выліць нямала бруду на сваю Радзіму». Менавіта ў гэты перыяд, між іншым, і трапілі за мяжу многія напісаныя пачынаючым мастаком Ісачовым карціны на заказаныя пакупнікамі тэмы.

Парваўшы адносіны з былымі сябрамі ў Ленінградзе, А. Ісачоў тым не менш не парваў іх з Г. Міхайлавым. Па-ранейшаму праз гэтага чалавека ён атрымліваў заказы ад «дзелавых» людзей. Прынамсі, на абмеркаванні выстаўкі Аляксандра Ісачова ў Мінску яго брат, Канстанцін Ісачоў, расказаў, што Г. Міхайлаў пастаянна трымаў мастака ў матэрыяльнай залежнасці, расплачваўся з ім дэфіцытнымі таварамі, японскай апаратурай. Па яго ж сведчанню, менавіта ў гэтай кампаніі брат далучыўся да наркотыкаў.

Кажуць, Аляксандр Ісачоў быў вымушаны карыстацца паслугамі «цямнай» асобы Міхайлава, бо не знайшоў падтрымкі і разумення ў Рэчыцы. Ад яго, маўляў, адхрышчваліся ўсе, не давалі работы па спецыяльнасці. А прэтэнзіі ў Аляксандра былі не малыя, напрыклад, аформіць Палац культуры ў Рэчыцы, бар і гэтак далей. І ў галаву не прыходзіла захваленаму Міхайлавым мастаку, што яму часта не хапае элементарнага прафесіяналізму і густу, каб выконваць гэтыя заказы.

Свае паслугі Ісачоў прапанаваў царкве. Пісаў іконы, распісваў сцэны.

Што адбывалася з ім у гэты час? У якога бога [illegible] верыў? Працаваў неверагодна м[illegible] не выходзячы тыднямі са сваёй маленькай майстэрні. Неяк



на выстаўку яго твораў, арганізаваную на прыватнай кватэры, прыехалі прадстаўнікі Гомельскага абласнога аддзялення Саюза мастакоў БССР. Ацаніўшы яе неадназначна, яны тым не менш рэкамендавалі наладзіць у горадзе публічную выстаўку Ісачова, што неўзабаве і было зроблена.

Паглядзець гэту выстаўку амаль такой, як яна дэманстравалася ў Рэчыцы, змаглі сёлета і мінчане.

...У невялікай зале Палаца культуры прафсаюзаў былі прадстаўлены 32 жывапісныя карціны і 15 малюнкаў Ісачова. Аднак гэта не складае і дзесятай часткі зробленага ім.

Я ўважліва ўзіраюся ў рысы твару маладога чалавека на «Аўтапартрэце». На ім — пячатка душэўных і фізічных пакут, нейкай прыгнечанасці; расчараванасць, адчужанасць і нават крыўда. Уражанне ад аўтапартрэта ўзмацняецца дзіўным адзеннем, у якое Ісачоў «апрануў» сябе: рыцарскія даспехі ці рымскія латы? Кім уяўляў сябе гэты юнак на сцэне жыцця? Акцёрам? Прарокам? Верным і бескарыслівым рыцарам мастацтва?..

Побач з «Аўтапартрэтам» дзесяткі іншых герояў, створаных Ісачовым: міфалагічная Персефона, Дрыяда, Апалон, біблейскія Хрыстос, Майсей... Знакі, сімвалы, бляск дарагога адзення, экзатычныя плады і кветкі, кроў і змяя, аголенае жаночае цела і саркафаг... Адразу і не зразумееш, што да чаго. Пагардліва і раўнадушна пазіраюць з карцін прарокі і прыгажуні, вочы іх пранізваюць цябе і абпальваюць холадам. Ніякавата робіцца ў гэтым царстве містыкі, зла і дысгармоніі...

Я не збіраюся даваць ацэнку творчасці Ісачова як мастака, як асобы. Мэта мая іншая. Паказаць, як і на якой глебе вырас Ісачоў, як ва ўмовах мастацкай свабоды сёння ацэньвацца яго творчасць землякамі ў Беларусі.

Гартаю два тамы кнігі водгукаў. Тут пакінулі свае запісы сотні наведвальнікаў. Яны вельмі супярэчлівыя. Вось толькі некаторыя з іх:

«...Мы плакалі ў зале. Бо страцілі геніяльнага мастака».

«Чым больш будзе падобных выставак — тым менш неапраўданага і павярхоўнага захаплення».

«Выстаўка пакінула цяжкае ўражанне... Хто і навошта атруціў душу мастака, каб ён стаў такім злым?»

«...На мой погляд, Ісачоў — мастак — № 1... Такой сілы самавыяўлення я не бачыла яшчэ ні ў аднаго сучаснага мастака».

«...Ажыятаж вакол імя чалавека — сапраўдная спекуляцыя, больш нічога. Няма тут мастацтва, н[illegible] нават элементарнай жывапіснай [illegible]малявальнай граматнасці».

«Ён — наш кумір».

«Вельмі шкада, што маючы такі талент, своеасаблівую тэхніку пісьма выкарыстаў толькі затым, каб паказаць дэманізм і тое, што прывядзе ў пекла. Шкада, што м[illegible]к так і не зразумеў Хрыстовай л[illegible]ві, ціхмянасці, пакоры».

«...Ісачоў падаваў надзеі — ні больш, ні менш...»

«Гледзячы на работы Ісачова, думаецца — як далёка яшчэ чалавецтва ад дасканаласці».

«Аўтар насумненна мог бы стаць мастаком значным. Магчыма, проста не паспеў...»

Якое ж меркаванне спецыялістаў?

— За рэдкімі выключэннямі творы Ісачова — гэта папяровыя кветкі, прыпраўленыя парфумерыяй кітча, — лічыць мастацтвазнавец А. Дабравольскі. — Высакамерны дылетантызм, фарсаж фізіялогіі, пашлаватасць фарбаў, натуры, эгаізм рэчаў густа замешаны на міфалагічнай «экзотыцы». Але скрозь усю пачварнасць прабіваецца крык душы аб спрадвечных каштоўнасцях жыцця, боль і пакуты чалавечага сэрца.

— Мне здаецца,— кажа народны мастак СССР, акадэмік Акадэміі мастацтваў СССР М. Савіцкі,— што выстаўка Ісачова вельмі карысная ў тым сэнсе, што яна нарадзіла гарачыя спрэчкі, узбудзіла, я б сказаў, жывы інтарэс да мастацтва. Я ведаю, што яе наведалі некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Аднак тыя ж самыя людзі зусім праігнаравалі выстаўку першакурсніка нашага Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Уладзіміра Шаркова, якая праходзіла адначасова і дэманстравалася побач, у Доме мастацтваў. Таму поспех і папулярнасць выстаўкі Ісачова ў гледача я тлумачу не нейкімі асаблівымі мастацкімі вартасцямі работ, але і скандальнай славай мастака, пікантнымі сюжэтамі, выбарам герояў, адлюстраванне якіх доўгі час лічылася ў нас ледзь не крамолай, яго непрыкрытым жаданнем дагадзіць публіцы, падладзіцца пад яе густ.

Цяпер пра іншае. Выстаўка Ісачова паставіла шмат пытанняў, прымусіла многіх задумацца аб прызначэнні мастацтва. Спрадвеку яго мэтай было — адвесці чалавека ад зла, натхніць яго. Гэтага я не бачу на нашумелай выстаўцы. Яго работы — гэта эклектыка паводле класікі. Выкананы карціны самымі простымі натуралістычнымі прыёмамі і ніяк не могуць прэтэндаваць на тое, каб іх лічылі нейкім адкрыццём.

Незадоўга да смерці Ісачова ў 1987 годзе А. Дабравольскі, як прадстаўнік Саюза мастакоў БССР, ездзіў у Рэчыцу, дзе тады была наладжана першая выстаўка Аляксандра. Тады ж Аляксандр Ісачоў атрымаў прапанову Саюза мастакоў выставіцца ў вялікай экспазіцыі рэспубліканскай выстаўкі разам з прадстаўнікамі розных беларускіх нефармальных мастацкіх аб'яднанняў. Але лёс расставіў свае акцэнты. А час не вернеш назад.

Сапраўды вельмі шкада, калі з жыцця адыходзіць чалавек, які мог стаць значным мастаком, мог сказаць сваё слова пра час, у які жыў, пра сваё пакаленне, пра зямлю, на якой нарадзіўся і якую, несумненна, любіў. Але думаецца, што ў гэтай трагедыі мастака вінаваты не папулярныя сёння бюракраты, на якіх мы часта спісваем свае ўласныя грахі, а перш за ўсё ён сам. Свядома ці не Аляксандр як бы ізаляваў сябе ад грамадства, пакрыўджаны, выраcя яго, наглуха закрыўся — быццам шоры навесіў на вочы — ад усяго, чым жывуць яго сучаснікі. Уласны эгаізм і пагарда да людзей штурхнулі яго на шлях, які завёў у тупік, у духоўнае рабства. Вядома, не без дапамогі розных міхайлавых.

Засталіся раскіданыя па свеце сотні жывапісных карцін Ісачова. Яны нямыя сведкі яго таленту і бездапаможнасці, сілы і слабасці. На кінастудыі «Беларусьфільм» вось-вось будзе падрыхтаваны дакументальны фільм пра рэчыцкага мастака.

«Пры ўсіх выдатках асабістага індывідуалізму, як чалавек яўна таленавіты і моцны, Ісачоў прынёс у наш мастацкі лексікон тое, чаго дагэтуль у беларускім мастацтве не з'яўлялася,—хачу я заключыць гэтыя нататкі словамі мастацтвазнаўцы А. Дабравольскага.— Сёння, калі мы так заклапочаны адраджэннем гістарызму духоўнай культуры, нацыянальная беларуская свядомасць не ідзе далей за язычніцкія абрады Купалля ці Гукання вясны. Але ж хрысціянства прынесла на нашу зямлю ў рэлігійнай абалонцы сусветную культуру... У тым і трагедыя Аляксандра Ісачова, што ён паставіў сабе задачу Вялікую як асоба моцная. Але ж сродкі для яе вырашэння, інструментарый, які далі яму жыццё і лёс, не дазволілі вырашыць гэту задачу».

Таццяна АНТОНАВА.

**НА ЗДЫМКАХ: А. ІСАЧОЎ. «Аўтапартрэт»; чарга на выстаўку мастака ў Палацы культуры прафсаюзаў у Мінску.**
**Фота С. КРЫЦКАГА.**









**«Хвала — «Сузор'е!», «Спасибо — «Сузор'е!», такія воклічы гучалі пасля кожнага з пяці канцэртаў, якія даў самадзейны ансамбль песні і танца з Брэста ў гарадах Сербіі і Босніі, у час знаходжання на югаслаўскай зямлі.**

**У Лозніцы, Тышане, Мілічах, Зворніку, Срэбніцы і раней былі знаёмыя з беларускім фальклорам. Апошнія гады прафсаюзныя арганізацыі гэтых гарадоў, а таксама клуб імя вядомага югаслаўскага асветніка Вука Караджыча падтрымліваюць самыя цесныя кантакты з прафсаюзнымі арганізацыямі Брэсцкай вобласці. У Югаславіі ўжо двойчы пабываў народны ансамбль песні і танца «Брастчанка» і дэлегацыі прафсаюзных работнікаў горада.**

**«Сузор'е» прывезла сябрам вянок беларускіх, рускіх, украінскіх песень і вясёлых народных танцаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: ансамбль «Сузор'е» выступае ў спартыўным комплексе горада Лозніца; брастчане наведалі сядзібу-музей вядомага югаслаўскага асветніка Вука Караджыча; пасябравалі салістка танцавальнай групы ансамбля «Сузор'е» Святлана СУПРУНОВІЧ (злева) і салістка ансамбля імя Вука Караджыча з горада Лозніца Верыца ТОМІЧ.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## ГУТАРКА З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ

# БОЛЬШ СВАБОДЫ І САМАСТОЙНАСЦІ

*Што новага сёння ў савецкім кнігавыданні? Якія праблемы і задачы перад ім стаяць і як яны вырашаюцца? На гэтыя і іншыя пытанні карэспандэнта Агенцтва друку Навіны адказвае намеснік старшыні Дзяржкамвыда СССР Васіль СЛАСЦЯНЕНКА.*

— 220 выдавецтваў Савецкай краіны выпускаюць штогод да 84 тысяч назваў кніг і брашур агульным тыражом 2,7 мільярда экземпляраў,— гаворыць Васіль Сласцяненка.— Пры гэтым на долю мастацкай і дзіцячай кнігі прыпадае прыкладна 55 працэнтаў агульнага тыражу; каля 25 працэнтаў — гэта падручнікі; астатняе — грамадска-палітычная, навукова-тэхнічная літаратура, іншыя віды выданняў.

Выпуск літаратуры пастаянна расце, і тым не менш мы па-ранейшаму сутыкаемся з вострай праблемай незадаволенага попыту пакупнікоў на кнігі — праблемай кніжнага дэфіцыту, ці, як іншы раз гавораць, «кніжнага голаду». Рашэнне мы бачым перш за ўсё ў дасканаласці планавання выпуску і распаўсюджання кнігі. Гэтаму, у прыватнасці, павінна садзейнічаць большая свабода і самастойнасць у дзейнасці выдавецтваў, больш глыбокае вывучэнне запытанняў і інтарэсаў розных чытацкіх колаў. Канкрэтныя крокі ў гэтых напрамках ужо робяцца.

**— Якія ж іменна!**

— Ужо сёння рэалізуецца праграма выпуску літаратуры павышанага попыту, складзеная па заяўках чытачоў і разлічаная на 1988—90 гады. Па гэтай праграме мы будзем выпускаць штогод масавымі тыражамі (500—700 тысяч экземпляраў) даведачна-энцыклапедычную літаратуру, кнігі для дзяцей, розныя дапаможнікі, ваенна-гістарычныя мемуары.

Што тычыцца мастацкай літаратуры, то тут, напрыклад, другі год ажыццяўляецца безлімітная падпіска на «залаты фонд» рускай і савецкай класікі. Вялікім для сусветнай практыкі тыражом 10,6 мільёнаў экземпляраў быў выдадзены трохтомнік Пушкіна. Збор твораў Маякоўскага сабраў падпіску ў 6 мільёнаў экземпляраў. Сёлета выходзіць двухтомнік Лермантава. Далей пойдуць Дастаеўскі, Леў Талстой, Чэхаў, Горкі, Ясенін і іншыя.

Назіраецца значны рост тыражоў літаратурных часопісаў. Так, у «Нового мира» і «Дружбы народов» яны выраслі адпаведна з 490 і 150 тысяч экземпляраў летась да 1 130 і 800 тысяч экземпляраў сёлета. У 1988 годзе мяркуецца адкрыць больш 20 новых часопісаў.

Нарэшце, грунтуючыся на думцы і інтарэсах чытачоў, па выніках кожнага года мы будзем вызначаць найбольш папулярныя сучасныя мастацкія творы і перавыдаваць іх вялікімі тыражамі — да 500 тысяч экземпляраў.

**— Ці ёсць якія-небудзь змяненні ў правах аўтараў!**

— Так, і звязаны яны з працэсам далейшай дэмакратызацыі ўсёй кнігавыдавецкай палітыкі. Сёння выдавецтвы маюць права адмовіцца ад абавязковага рэцэнзавання рукапісаў аўтараў. Асобныя работы, якія змяшчаюць дыскусійныя палажэнні, арыгінальныя, нестандартныя пункты гледжання, будуць выпускацца ў аўтарскай рэдакцыі. Акрамя таго, у нас упершыню ўводзіцца практыка выдання кніг за кошт сродкаў аўтараў. Аўтару прадастаўляецца права самастойна ці на камісійных пачатках праз кнігагандлёвую сетку рэалізоўваць свае кнігі, ён будзе мець права ўласнасці на тыраж. Мяркуецца, што тыражы кніг, выпушчаных за кошт сродкаў аўтара, будуць мець як бы пробны характар, а ў выпадку грамадскага прызнання ці масавага попыту яны будуць перавыдавацца з выплатай аўтару ганарара на агульных падставах.

**— А як ідуць справы ў галіне паліграфічных магчымасцей і забеспячэння папераў!**

— Гэта, бадай, наша самая сур'ёзная праблема. Зразумела, што развіццё кнігавыдавецкай справы немагчыма сёння ў адрыве ад навукова-тэхнічнага прагрэсу. І арыенціры ясныя — гэта лазерны набор, гібкія аўтаматызаваныя сістэмы вытворчасці кнігі, скорасныя шматфарбавыя аўтаматызаваныя друкарскія машыны, паточныя лініі. Але нам трэба будзе пераадолець адсталасць нашай паліграфічнай базы. Доўгі час у паліграфію не накіроўвалася дастатковая колькасць сродкаў. Прынятыя цяпер урадавыя рашэнні павінны забяспечыць істотны зрух у гэтай справе. Так, аб'ём укладанняў у галіну на 1986—90 гады на 70 працэнтаў перавышае суму мінулай пяцігодкі. Важнейшы ўпор робіцца на тэхнічнае пераўзбраенне. К канцу цяперашняга пяцігадовага тэрміна намечана перайсці пераважна на фотанабор і афсетны друк, значна павысіць выраб кніг на аўтаматызаваных лініях.

**— Савецкі Саюз па праву лічыцца адной з буйнейшых кнігавыдавецкіх дзяржаў. Як ён удзельнічае ў сістэме міжнароднага кнігаабмену!**

— Наша супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі пастаянна расшыраецца. Асабліва гэта стала прыкметна пасля таго, як з 1 студзеня 1987 года Дзяржкамвыду СССР у ліку іншых міністэрстваў і ведамстваў краіны было прадастаўлена права самастойнага ажыццяўлення экспартна-імпартных аперацый.

Можна адзначыць два асноўныя напрамкі нашага ўдзелу ў сістэме міжнароднага кнігаабмену. Па-першае, гэта развіццё двухбаковых кантактаў на падставе доўгатэрміновых пагадненняў, якія прадугледжваюць узаемнае прадастаўленне правоў на выданне літаратурных твораў, продаж гатовых тыражоў, падрыхтоўку і выпуск сумесных выданняў, ажыццяўленне перакладаў. Па колькасці выданняў перакладной літаратуры наша краіна трывала займае адно з вядучых месцаў у свеце. У нас штогод перакладаецца больш за 2 тысячы твораў замежных аўтараў тыражом каля 200 мільёнаў экземпляраў. Здараецца нават так, што той ці іншы пісьменнік у нашай краіне аказваецца больш вядомым, чым у сябе на радзіме. Апошнім часам актыўна ствараюцца сумесныя выдавецкія прадпрыемствы. Прыкладамі тут могуць служыць нашы сувязі з калегамі з Балгарыі, Польшчы, Югаславіі, Фінляндыі, ФРГ.

Другі напрамак супрацоўніцтва — гэта ўдзел у міжнародных форумах. Прычым мы не толькі ўдзельнічаем у розных міжнародных і рэгіянальных кніжных выстаўках і кірмашах, але і раз у два гады з'яўляемся арганізатарамі аднаго з буйнейшых падобных форумаў — Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Летась гэты кірмаш прайшоў ужо шосты раз, у яго рабоце прынялі ўдзел 3 378 выдавецтваў, фірм і арганізацый з 97 краін, а таксама 16 міжнародных і 2 нацыянальныя арганізацыі. Савецкія кнігавыдаўцы атрымалі заказы ад замежных фірм на пастаўку амаль 45 мільёнаў экземпляраў кніг. Было падпісана 6 056 экспартна-імпартных дагавораў, што амаль у два разы больш, чым у 1985 годзе.

**Гутарку запісаў Аляксандр ЛОГІНАЎ.**

# КУПАЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

У мінскім Доме літаратара прайшлі купалаўскія чытанні, прысвечаныя 106-й гадавіне з дня нараджэння песняра і 80-годдзю яго першага паэтычнага зборніка «Жалейка», у якіх прынялі ўдзел крытыкі, навукоўцы, выкладчыкі універсітэтаў, музейныя супрацоўнікі з Прыбалтыкі, Сярэдняй Азіі, Украіны, Урала, Беларусі.

Адкрыў чытанні сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак. Уступнае слова сказала дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы Ж. Дапкюнас.

«Нацыянальная духоўная традыцыя і Янка Купала» — тэма выступлення доктара філасофскіх навук А. Майхровіча. Вучоны з Таджыкістана, загадчык аддзела Інстытута мовы і літаратуры АН ТССР Х. Шадзікулаў сваё паведамленне прысвяціў купалаўскай «Жалейцы» і творчасці класіка таджыкскай савецкай літаратуры А. Лухці.

Звярнула ўвагу выступленне кандыдата філалагічных навук з Уральскага дзяржаўнага універсітэта Т. Снегіровай: «Да пытання аб жанравай тыпалогіі лірыкі Янкі Купалы». Дарэчы, трэба адзначыць, што сувязі універсітэта з купалаўскім музеем сталі традыцыйнымі. Штогод студэнты з Урала прыязджаюць на навуковую практыку ў музей.

«Янка Купала ў Латвіі» — так назвала сваё выступленне кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры АН Латвійскай ССР М. Абала.

«Аб задачах сучаснага купалазнаўства ў святле перабудовы» — тэма даклада доктара філалагічных навук, загадчыка кафедры БДУ імя У. І. Леніна А. Лойкі. Зацікавіла прысутных выступленне доктара юрыдычных навук В. Круталевіча — «Публіцыстыка Янкі Купалы 1919—1920 гг.».

Усяго выступілі амаль 30 прамоўцаў. У прыватнасці, былі заслуханы паведамленні кандыдата філалагічных навук В. Рагойшы, загадчыка аддзела Музея літаратуры Літвы В. Русецкайтэ, загадчыка творчых секцый Саюза мастакоў БССР Б. Крэпака і іншых.

Удзельнікі чытанняў наведалі Літаратурны музей Янкі Купалы, пазнаёміліся з літаратурна-мастацкай выстаўкай «Купалава кніга», пабывалі на радзіме паэта ў Вязынцы.

**С. МАЙХРОВІЧ.**

# НОВАЯ ВЕРСІЯ «ФЯДОТА»

Актуальнасць тэмы і яркая метафарычнасць казкі Л. Філатава «Пра Фядота — стральца, удалога малайца» прыцягнулі ўвагу Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, на сцэне якога створаны аднайменны спектакль. Гэта першая работа «для дарослых» рэжысёра і акцёра Юрыя Сарычава, які паставіў у тэатры «Церам-церамок» С. Маршака і «Казку пра Хлапчыша-Кібальчыша» А. Гайдара.

Афарміла спектакль маскоўская мастачка А. Ганіодская. Яе лялькі і сцэнаграфія «Дзеда і Жорава» В. Вольскага атрымалі высокую ацэнку на фестывалях тэатраў лялек як у нашай краіне, так і за рубяжом.

Казку-прытчу па матывах рускага фальклору (жанр спектакля) у выкананні аднаго акцёра кожны па-свойму разыграюць заслужаны артыст БССР У. Уласаў, А. Сцепанюк, В. Ясаў.

**Н. ЗЛАТКОЎСКАЯ.**



**У Мінску на стадыёне «Дынама» адбылася выстаўка службовых сабак. Сваіх гадаванцаў прадстаўлялі на ёй клубы сабакаводства з розных гарадоў рэспублікі. Шматлікія гледачы з задавальненнем паглядзелі паказальныя выступленні чацвераногіх сяброў, міні-спаборніцтвы па пераадоленню паласы перашкод.**
**НА ЗДЫМКАХ: сябры; на выстаўцы.**

**Фота У. СІДАРОВІЧА.**





# МАЗАІКІ СА СЛАВУТАГА САБОРА

Нечаканым, дзіўным стаў для мяне той факт, што ў Баранавічах захоўваецца выдатнае адлюстраванне славутага рускага архітэктара Лявонція Бенуа — дзеда (па маці) амерыканскага пісьменніка Пітэра Усцінава.

Сцены Нова-Пакроўскага сабора ў Баранавічах упрыгожваюць мазаікі, выкананыя ў 1902—1911 гадах у пецярбургскай майстэрні В. Фралова па арыгіналах В. Васняцова, М. Кошалева, М. Бруні, В. Думітрашкі. Але спецыяльна для сабора ў Баранавічах мастакі нічога не стваралі — яны працавалі над афармленнем некалі вядомага праваслаўнага сабора Аляксандра Неўскага ў Варшаве. Створаны па праекту Л. Бенуа, гэты сабор праіснаваў усяго некалькі год: ён пачаў дзейнічаць у 1912 годзе і быў разбураны дашчэнту к 1926. Мазаікі былі разабраны, перавезены на ўсходнюю ўскраіну тагачаснай Польшчы — у Баранавічы, і часткова адноўлены на сценах пабудаванага ў 1924—1931 гадах Нова-Пакроўскага сабора.

У тымпане франтона паўночнага порціка — мазаіка па кардону М. Кошалева «Збавіцель з данатарам». Па традыцыі, што ідзе ад сярэдневякоўя, на ёй паказаны свецкі чалавек — аўта… рхітэктурнага праекта… яго далонях мадэль Варшаўскага сабора, якую ён працягвае Ісусу Хрысту, а той вянчае галаву дарыцеля залатой, усыпанай каштоўнымі камянямі каронай. Так паказалі сучаснікі, што …ейнасць Лявонція Бен… заслугоўвае самай высокай узнагароды.

Нядоўга пражыў стваральнік храма пасля гібелі Варшаўскага сабора: ён памёр у 1928 годзе, будучы прафесарам Акадэміі мастацтваў. Яму, былому архітэктару імператарскага двара, аўтару многіх архітэктурных праектаў адміністрацыйных і грамадзянскіх будынкаў, педагогу, які выхаваў шмат славутых архітэктараў дарэвалюцыйнай і Савецкай Расіі, Савецкі ўрад аднаму з першых прысвоіў у 1927 годзе званне заслужанага архітэктара РСФСР.

Л. Бенуа ўспамінаем мы перад узведзенымі па яго праектах будынкамі Масквы і Ленінграда, перад славутым саборам у Гусь-Хрустальным, Уладзімірскім саборам у Кіеве. Гэта імя носіць «Мадонна Бенуа» — адна з мадонн Леанарда да Вінчы, палатно якога — уласнасць сям'і — Л. Бенуа пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі перадаў Эрмітажу...

У адным з лістападаўскіх нумароў «Недели» за 1986 год Пітэр Усцінаў у фрагменце з рамана «Паважаны Я», з віртуознейшай іроніяй расказваючы пра сваіх продкаў, адзначае мімаходзь, што яго маці была малодшай дачкой пецярбургскага архітэктара Луі Бенуа. Ці не той гэта архітэктар, чыё адлюстраванне на мазаіцы сабора ў Баранавічах? Але Лявонція Мікалаевіча ніколі не называлі «Луі», так звалі аднаго з яго сваякоў...

Адказ — у кнізе «Мае ўспаміны», напісанай Аляксандрам Бенуа, кіраўніком вядомага аб'яднання «Свет мастацтва». Расказваючы пра лёс свайго малодшага брата Лявонція Бенуа, ён піша, што апошнія гады жыцця былі вельмі цяжкімі для архітэктара. Разбуралася многае з таго, што ён стварaў, дзеля чаго жыў. Трое яго дзяцей пакінулі Расію. Яго малодшая дачка Надзея выйшла замуж за маладога чалавека, прозвішча якога Усцінаў, стала вядомай у мастацкім асяродку ў Англіі. Іх адзіны сын, працягвае аўтар, цяпер вядомы акцёр і пісьменнік Пітэр Усцінаў.

Так мазаікі, якія ўпрыгожваюць Нова-Пакроўскі сабор у беларускім горадзе Баранавічы, аказаліся звязанымі з выдатнымі майстрамі мінулага і сучаснасці.

**Ларыса ЭТЭНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: М. КОШАЛЕЎ, «Збавіцель з данатарам». У вобразе данатара — архітэктар Лявонцій БЕНУА.**






Сур'ёзны экзамен будзе трымаць зборная Савецкага Саюза па футболу. У ФРГ пачынаюцца фінальныя гульні першынства Еўропы. Трэнеры назвалі канчатковы састаў нашай каманды. У яе ўключаны мінскія дынамаўцы Сяргей Алейнікаў і Сяргей Гоцманаў.

Перад ад'ездам у ФРГ зборная СССР сустрэлася ў таварыскім матчы з камандай Польшчы. Лік гульні 2:1 на карысць нашых футбалістаў.

У гэтыя дні сусветная спартыўная прэса многа ўвагі ўдзяляе адкрытаму чэмпіянату Францыі па тэнісу. Сюды з'ехаліся многія мацнейшыя спартсмены. Сапраўдную сенсацыю выклікала выступленне тэнісістаў Савецкага Саюза. Так, масквіч Андрэй Часнакоў перамог чэмпіёна Уімблдонскага турніру аўстралійца Кеша. Мінчанка Наталля Зверава нанесла паражэнне другой ракетцы свету Наўрацілавай з Чэхаславакіі, а ў наступным крузе і яе зямлячцы Сукавай, якая таксама ўваходзіць у дзесятку мацнейшых.

Вялікая група беларускіх гандбалістаў удзельнічала ў міжнародных спаборніцтвах.

Перамогай зборнай СССР завяршыўся ў Бялградзе буйны турнір на «Кубак Югаславіі». У заключным матчы нашы спартсмены нанеслі паражэнне гаспадарам з лікам 26:23. Самым рэзультатыўным у гэтай гульні аказаўся мінчанін Канстанцін Шараварaў. Ён закінуў у вароты сапернікаў шэсць мячоў.

А ў Вільнюсе гандбалісткі мінскага БПІ сустрэліся ў таварыскім матчы з чэмпіёнкамі ГДР клубам «Форвертс» і дамагліся перамогі — 22:21.

Перад алімпійскімі Гульнямі ў Сеуле значна абнавіўся састаў зборнай Савецкага Саюза па мастацкай гімнастыцы. І нашым спартсменкам прыйшлося адразу вытрымаць сур'ёзныя выпрабаванні. Яны прынялі ўдзел у першынстве Еўропы, якое завяршылася ў Хельсінкі.

Марына Лобач з Мінска стала ўладальніцай дзвюх вышэйшых узнагарод за кампазіцыю са скакалкай і са стужкай.

Нямала перамог атрымалі беларускія спартсмены і на ўсесаюзных першынствах і турнірах. Назавём толькі некаторыя з іх.

Зоя Садоўская тройчы была сярэбраным прызёрам чэмпіянатаў СССР па міжнародных шашках. І вось новы поспех. Нядаўна ў Благавешчанску яна нарэшце заваявала чэмпіёнскі тытул.

На прайшоўшых у Сочы ўсесаюзных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы «Кубак сезону-88» на прызы газеты «Правда» ўпэўненыя перамогі атрымалі Эліна Зверава (кіданне дыска), Аляксандр Васільеў (бег на 400 метраў з бар'ерамі), Таццяна Грэбяньчук (бег на 800 метраў), Аляксандр Каваленка (трайны скачок) і Наталля Ермаловіч (кіданне кап'я).

Сваю першую перамогу атрымала і брастаўчанка Ірына Важэніна. На розыгрышы Кубка СССР па велатрэку яна была мацнейшай у індывідуальнай гонцы праследавання на тры кіламетры.

Усе гэтыя спаборніцтвы падкрэсліваюць, што беларускія спартсмены паспяхова вядуць барацьбу за права паехаць у Сеул на XXIV Алімпійскія гульні.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

З просьбай дапамагчы адшукаць брата ў рэдакцыю звярнуўся Зімніцкі Уладзіслаў Антонавіч.

**ЗІМНІЦКІ Ян Антонавіч** нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Мілашэвічы Гродзенскай вобласці. У час вайны служыў у польскай арміі. Пасля вайны ён нейкі час жыў у Англіі, затым пераехаў у Аргенціну ў горад Буэнас-Айрэс. Некалькі разоў ад яго прыходзілі пісьмы, але потым сувязь з роднымі спынілася. Просьба да ўсіх, каму што-небудзь вядома аб лёсе Зімніцкага Яна Антонавіча, паведаміць аб гэтым у рэдакцыю альбо непасрэдна брату.

Яго адрас: **231807. БССР, Гродзенская вобласць, Слонімскі р-н, вёска Мыслава. Зімніцкі Уладзіслаў Антонавіч.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 933